

ТРЫМАЙСЯ ПРАЎДЫ!

# АБАЖУР

ГА «БЕЛАРУСКАЯ АСАЦЫЯЦЫЯ ЖУРНАЛІСТАЎ»

THE BELARUSIAN ASSOCIATION OF JOURNALISTS

№ 1 (122)
2018

## Міхаіл Пастухоў:

***Мяркую, наша каманда зрабіла важкі ўнёсак у абарону і станаўленне незалежнай прэсы ды ўмацаванне аўтарытэту Беларускай асацыяцыі журналістаў***

**ОО «Белорусская ассоциация журналистов» подготовила и направила депутатам Парламента свои замечания и предложения по законопроекту, касающемуся внесения изменений в законодательство в сфере СМИ. Большая часть предлагаемых госстуктурами поправок касается Закона «О средствах массовой информации».**

**«Предложенные изменения в законодательстве направлены на усиление контроля за интернет-сферой в Беларуси», — заявляет председатель Белорусской ассоциации журналистов Андрей Бастунец.**

**По мнению Андрея Бастунца, проект закона следует направить на доработку и провести его обсуждение общественностью, экспертным сообществом (в том числе экспертами международных структур и институций), представителями бизнеса.**

**«Наши власти примитивно понимают термин “управление интернетом”, а именно на урегулирование этой сферы направлен законопроект, — отмечает Бастунец. — Но под этим понятием понимаются отнюдь не односторонние волевые действия власти, а согласование политики государства, граждан и бизнеса. Именно этого мы и хотим добиться».**

# Поправки в Закон о СМИ, вызвавшие критику БАЖ

Законопроект допускает добровольную регистрацию интернет-ресурсов в качестве СМИ (для таких вводится термин «сетевые издания»). Сетевые издания и их сотрудники получат права традиционных СМИ. Остальные сайты тоже смогут работать, но без статуса СМИ. Однако в части обязанностей и ответственности Закон о СМИ планируется распространить и на тех, и на других.

Регистрация интернет-ресурсов в качестве СМИ (сетевых изданий) будет проходить в общем для традиционных СМИ порядке. Другими словами, вместо того, чтобы упростить этот порядок или вообще ликвидировать регистрацию печатных СМИ, в ее прокрустово ложе пытаются «уложить» и сетевые издания. С учетом существующих положений редакцией сможет быть только юридическое лицо, которое располагается в помещениях нежилого фонда, а редактором — гражданин Республики Беларусь с пятилетним стажем работы на руководящих должностях в СМИ.

В случае непрохождения регистрации в качестве СМИ интернет-ресурсы не смогут обращаться в государственные органы и другие организации за аккредитацией своих корреспондентов. Журналистский статус сотрудников этих интернет-ресурсов вообще будет поставлен под сомнение. Они не смогут пользоваться правами журналиста при осуществлении ими профессиональных обязанностей на массовых акциях, при защите источника информации и т. п.

Ограничение доступа к интернет-ресурсам по-прежнему будет осуществляться во внесудебном порядке. А для сетевых изданий блокировка сможет повлечь за собой также аннулирование свидетельства о регистрации сетевого издания. Тоже без суда.

Вводится обязательная идентификация лиц, размещающих материалы или комментарии на форумах, в интернет-ресурсах (не только в сетевых изданиях).

Предусматривается обязательная модерация интернет-ресурсов.

Допускается возможность блокировки социальных сетей.

Сохраняется упрощенный порядок ограничения доступа к интернет-ресурсам (что допустимо даже без вынесения Мининформом предупреждения), вводятся дополнительные основания для этого.

Прописывается возможность возобновления доступа к интернет-ресурсам, попавшим в «черный список», но только путем обращения в Министерство информации и без указания на возможность обжаловать его решение в суде.











## МЕДЫЯСЯМ'Я



ТРЫМАЙСЯ ПРАЎДЫ!

# АБАЖУР

№ 1 (122) 2018

**Выдавец:** ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў»
Перыядычнасць: 1 раз у 3 месяцы
Выдаецца са снежня 2000 г.

**Галоўны рэдактар**
Уладзімір Барысавіч Дзюба

Скарыстаны здымкі Антона Сурапіна, з архіваў «Абажура».

Выданне зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь, рэгістрацыйны № 833 ад 04.12.2009.
Падпісана да друку 26.03.2018.
Дата выхаду 18.04.2018.
Фармат 60х84/8.
Папера афсетная.
Друк афсетны.
Ум. друк. арк. 8,0
Наклад 300 асобнікаў.
Замова № .
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы, распаўсюджвальніка друкаваных выданняў № 1/142 ад 09.01.2014, № 2/34 ад 23.12.2013.
Распаўсюджваецца бясплатна.

**Адрас рэдакцыі:**
**220004, г. Мінск,**
**вул. Кальварыйская, 16-265.**
**Тэл.: (029) 126-70-98**
**E-mail: abajur@baj.by,**
**baj@baj.by**
**Сайт: www.baj.by**

Друкарня ТАА «МЕДЫСОНТ»
ЛП № 02330/0552782
ад 01.10.2010 г.
Адрас: 220004, г. Мінск,
вул. Ціміразева, 9.
Тэл.: (017) 203-74-10,
(017) 203-53-41,
(029) 623-74-10
www.medisont.by

# Андрэй Бастунец:
# «У арганізацыі мяняюцца і людзі, і абставіны, у якіх мы працуем»




**Старшыня Беларускай асацыяцыі журналістаў Андрэй Бастунец напярэдадні чарговага справаздачна-выбарчага з'езда распавёў пра стасункі з афіцыйнымі структурамі, а таксама пра самы дакладны індыкатар, што вызначае стаўленне дзяржавы да медыя.**

***— Заканчваецца ваша першая кадэнцыя на пасадзе старшыні БАЖ. Пра якія вынікі, на ваш погляд, можна гаварыць, што можна адзначыць?***

— Перад з'ездам справаздачу перш за ўсё трымае не старшыня, а Рада. І гэта — нармальна, бо ў нашай арганізацыі пераважна супольная праца, а не высілкі аднаго-двух чалавек. Але, прызнаюся, асабіста для мяне гэта быў цяжкі перыяд. Я доўгі час толькі ўваходзіў у сутнасць спраў. Хаця, здавалася б, столькі гадоў быў намеснікам старшыні БАЖ і ачольваў пэўныя кірункі дзейнасці…

Калі коратка: нават у тых неспрыяльных умовах, у якіх знаходзіцца медыясектар Беларусі і БАЖ у тым ліку, мы здолелі рэалізаваць і развіць стратэгічныя накірункі, прынятыя на мінулым з'ездзе. Дастаткова узгадаць 2017 год, які быў вельмі няпростым, але мы былі падрыхтаваныя да тых выклікаў і шмат у чым змаглі дапамагчы нашым калегам, якія цярпелі пераслед.

Разам з тым мы застаемся крыніцай інфармацыі для нашых міжнародных партнёраў — уплывовых еўрапейскіх арганізацый, што адсочваюць сітуацыю са свабодай слова, свабодай СМІ. Мы рабім маніторынгі агульнай сітуацыі ў медыяасяроддзі Беларусі, маніторынгі асвятлення выбараў. БАЖ удзельнічае ў дыялогу па правах чалавека паміж Беларуссю і Еўрасаюзам — прадстаўнікі арганізацыі прысутнічаюць на афіцыйных сустрэчах. І, заўважу, у адрозненне ад іншых краін наша грамадская арганізацыя мае права голасу, а не толькі магчымасць назіраць за дыялогам.

***— Ці ёсць бачанне таго, па якіх стратэгічных накірунках развівацца далей? Бо заўважна змяніўся медыяландшафт, у прафесію прыйшлі людзі з іншым светапоглядам, чым 20 гадоў таму, калі ствараўся БАЖ.***

— Я б вылучыў тры пункты. Па-першае, на мінулым з'ездзе была распрацавана і зацверджана стратэгія развіцця арганізацыі. Цяперашні з'езд будзе разглядаць абнаўленне гэтай стратэгіі, бо менавіта яна вызначае розныя сферы нашай дзейнасці.



Пункт другі звязаны з першым і палягае ў тым, што БАЖ найперш паўставаў як праваабарончая арганізацыя. Гэта сёння значную частку нашай дзейнасці займаюць асветніцкія праграмы. Аднак да той пары пакуль будуць існаваць выклікі для журналісцкай супольнасці, мы будзем на іх рэагаваць. Хаця гэта толькі адзін з накірункаў працы. Ёсць яшчэ і адукацыя, і маніторынгі, і юрыдычная падтрымка сяброў арганізацыі, і работа сайта — у гэтым рэчышчы і будзем працаваць. Я рады, што мы паспяваем усё гэта ўтрымліваць і развіваць.

І трэцяе: усё хутка змяняецца і мы не можам шмат чаго планаваць на далёкую перспектыву. Змяняецца медыясектар, адбываецца ратацыя людзей, якія працуюць у арганізацыі. Ад моманту калі я прыйшоў працаваць у Беларускую асацыяцыю журналістаў, цалкам змяніўся калектыў, многія з заснавальнікаў увогуле адыйшлі ад дзейнасці арганізацыі. Філосаф Хасэ Артэга-і-Гасэт казаў: «"Я" гэта "Я і мае абставіны"». Дык вось — у арганізацыі мяняюцца і "я", то бок людзі, і абставіны, у якіх мы працуем.

***— Не так даўно вы сустракаліся з міністрам інфармацыі Аляксандрам Карлюкевічам. На што можна спадзявацца, што можа змяніцца калі не сёння, то ў перспектыве?***

— Лічу, што гэта цалкам нармальна, калі дзяржструктура размаўляе з прадстаўнікамі адной з найбуйнейшых профільных арганізацый. Дзіўна, калі гэтага не адбываецца. Іншая справа, што ў апошнія гады нашы адносіны з Міністэрствам інфармацыі зайшлі ў тупік. Хаця я памятаю часы, калі Дзяржкамдрук звяртаўся да нас, каб пачуць пэўныя прапановы, правесці сумесныя экспертызы, калі Міхаіл Іванавіч Пастухоў працаваў у рабочай групе па падрыхтоўцы законапраекта аб інфарматызацыі. Потым штосьці пайшло не так і адносіны перарваліся. Нядаўняя сустрэча і размова даюць спадзеў, што сітуацыя выправіцца і меркаванне журналісцкай супольнасці, ва ўсякім разе той яе часткі, якую аб'ядноўвае БАЖ, будзе пачута Міністэрствам інфармацыі.

Цікава, што ў тыя самыя дні, калі адбылася сустрэча ў Мініфарме, супрацоўнікі БАЖ бралі

ўдзел яшчэ ў дзвюх сустрэчах «на дзяржаўным узроўні» — у Палаце прадстаўнікоў, дзе абмяркоўваўся праект зменаў у заканадаўства аб масавых мерапрыемствах, і ў Міністэрстве замежных спраў, дзе ішла размова пра Альтэрнатыўны даклад беларускіх праваабарончых арганізацый, падрыхтаваны для Камітэта па правах чалавека ААН.

Хацелася б верыць, што гэта не чарговая піаркампанія з боку дзяржавы, што было не раз, а сведчанне зусім іншага падыходу да сітуацыі і стасункаў з грамадзянскай супольнасцю.

***— Палітолагі ізноў гавораць пра «пацяпленне» і новы віток у міжнародных стасунках афіцыйнага Мінска з Захадам. Аднак з фундаментальнымі правамі чалавека ў Беларусі, у тым ліку са свабодай выказвання, па-ранейшаму кепска. Чаму так адбываецца і ці можа такі дыялог на нешта паўплываць?***

— Мне неаднарозова даводзілася чуць ад прадстаўнікоў еўрапейскіх структур, што цяпер час размаўляць з уладамі Беларусі па не вельмі адчувальных для іх пытаннях, то бок па тых, якія яны гатовыя абмяркоўваць. Маўляў, гэта лепш, чым не размаўляць наогул. І я амаль згодны з такім падыходам, аднак гэта не павінна здымаць з парадку дня непрыемныя для ўладаў тэмы. Гэта тычыцца і свабоды выказвання. Выбудоўванне дыялогу не толькі дзеля дыялогу, а і дзеля выніку — гэта тое, чаго я чакаю ад гэтага працэсу.

***— Як бы вы ацанілі сённяшняе айчыннае медыйнае поле? Бо з'явілася шмат нішавых выданняў, чаго не было яшчэ 5 гадоў таму. У журналістаў з'явіўся пэўны выбар — з кім супрацоўнічаць, а ў аўдыторыі — што чытаць. Праўда, гэта не тычыцца грамадска-палітычнай журналістыкі.***

— Думаю, менавіта развіццё грамадска-палітычнай журналістыкі ці не галоўны паказчык стаўлення дзяржавы да медыя. Гэта ізноў-такі са сферы «адчувальных пытанняў»: ці гатовыя ўлады чуць тое, што ім чуць непрыемна, якім чынам яны рэагуюць на крытыку. Гэта і ёсць індыкатар стаўлення да свабоды слова.

Мы не ведаем, якім будзе медыяполе праз пяць гадоў. Сёння мы абмяркоўваем з Мінінфармам сітуацыю з фрылансерамі, з заканадаўствам, традыцыйнымі медыя. Але праз колькі гадоў усё можа цалкам змяніцца і сітуацыя будзе выглядаць абсалютна інакш. Прагназаваць тут вельмі цяжка. Для мяне гэта не менш важна, чым сённяшнія перамовы ці канфлікты з уладамі.

Нагадаю, што мінулы год быў самым горшым па парушэннях правоў журналістаў пасля 2011 года. А сёлета дынаміка штрафаў паводле артыкула 22.9 КаАП яшчэ большая, чым летась. Канешне, калі ты не працуеш у грамадска-палітычнай журналістыцы, то цябе гэта можа і не закрануць, — так было і раней. Але ж і развіццё іншых галінаў журналістыкі: сацыяльных медыя, нішавых выданняў, — усё гэта адбываецца насуперак умовам, у якіх нам даводзіцца працаваць. Нагадаю, што рэдакцыя KYKY, а гэта акурат нішавае выданне, першая сутыкнулася з блакаваннем сайта.

***— Востра стаіць пытанне пераследу фрылансераў. Што можа прапанаваць БАЖ беларускім чыноўнікам, Парламенту? Як думаеце, ці пойдзе дзяржава на легалізацыю статуса фрылансера, бо сёння гэтыя людзі знаходзяцца па-за прававым полем. У XXI стагоддзі на фоне цывілізаваных краін гэта выглядае ўжо не як нонсенс, а як дзікунства.***

— Беларускай асацыяцыі журналістаў ёсць што прапанаваць па гэтай праблеме, і мы гэта ўжо неаднаразова рабілі. Цяпер мы рыхтуем пакет адпаведных дакументаў для Міністэрства інфармацыі. Дарэчы, падчас сустрэчы з міністрам Карлюкевічам я згадваў досвед скандынаўскіх краін, дзе ўвогуле не важна, звязаны ты з нейкай рэдакцыяй дамовай ці не. Бо там кожны грамадзянін мае права і на доступ да інфармацыі, і на яе захоўванне, і на распаўсюд — незалежна ад статуса.

Трэба наўпрост сказаць, што абсалютная большасць выпадкаў пераследу фрылансераў звязаная з ціскам на журналістаў, якія супрацоўнічаюць з тэлеканалам «Белсат». І гэты перaслед, па маім глыбокім перакананні, супярэчыць не толькі міжнародным абавязацельствам Беларусі, але і ўнутранаму заканадаўству. І, здаецца, прававымі сродкамі гэтае пытанне не вырашаецца, бо яго пераводзяць у палітычную сферу. І тут я бачу толькі палітычнае рашэнне. Найперш праз высілкі новага складу польскага МЗС, праз высілкі Еўрасаюза і афіцыйнага Мінска.

***— Ці ёсць увогуле прыклады, калі ўлады прыслухаліся да меркаванняў журналісцкай супольнасці?***

— У 2008 годзе, калі прымалася новая рэдакцыя Закона аб СМІ, Беларуская асацыяцыя журналістаў атрымала яе ў апошні момант. Але мы ўсё ж такі падрыхтавалі і накіравалі абгрунтаваныя прапановы ў Палату прадстаўнікоў. Тады 8 ці 9 прапаноў БАЖа былі ўлічаны. Варта хаця б згадаць схаваную папраўку, якая прадугледжвала перарэгістрацыю СМІ ў выпадку змены юрыдычнага адраса. Мы гэтую норму выцягнулі на Божы свет і яе не ўзаконілі.

Раней падобная гісторыя была з Законам аб інфарматызацыі. Яго першая рэдакцыя выклікала насцярожанасць і абурэнне журналісцкай супольнасці. І дзякуючы нашым намаганням Закон у той рэдакцыі не быў прыняты. Можна згадаць і іншыя прыклады, але, паўтаруся, у апошнія гады ў нас было не вельмі плённае супрацоўніцтва з дзяржорганамі. Аднак будзем працаваць і адстойваць свае прафесійныя правы.

**Размаўляла Вольга ХВОІН**
**Фота Валянціны Зянковай**

# Прывітанне, бажаўцы!

**Як жывецца?
Мабыць, па грахах нашых.
Ці як на вайне?..**

**Прачынайцеся, вясна прыйшла! Адштурхніце творчы авітаміноз — і за справы, якіх у кожнага з нас дастаткова. Тым часам новыя гарызонты вызначыць наш юбілейны Х з'езд. З улікам меркаванняў, прапаноў і пажаданняў усіх сяброўпаплечнікаў. Некаторыя з іх рэдакцыя «аБАЖура» надрукавала ў гэтым нумары пад рубрыкай «Медыясям'я».**

**Напярэдадні з'езда мы папрасілі нашых калег з рэгіёнаў падзяліцца думкамі наконт далейшага развіцця БАЖа:**

**— наколькі вам дапамагае адчуванне таго, што вы сябра прафесійнай журналісцкай суполкі;**

**— што карыснага ў працы нашай арганізацыі запомнілася за апошнія тры гады;**

**— якія накірункі дзейнасці БАЖу трэба развіваць і ўмацоўваць?**






**Дзмітрый ЛУПАЧ,
журналіст-фрылансер, г. Глыбокае**

# Калі ты не адзін

Наша журналісцкая арганізацыя для мяне як адна вялікая сям'я. Асабліва блізка я адчуў гэту еднасць у апошнія тры гады. Бо менавіта на гэты перыяд у маім жыцці і прафесійнай дзейнасці выпаў нечакана шалёны пераслед з боку ўладаў. Дзякуючы падтрымцы бажаўцаў мне ўдалося выстаяць і пераўжыць шмат якія непрыемнасці.

Вядома, была падтрымка і з боку іншых грамадскіх арганізацый і рухаў, але сяброўскае плячо нашай журналісцкай суполкі і яе кіраўнікоў было сапраўдным апорай.

Але не толькі ў гэтым заключаецца разуменне, што я «сваяк» у вялікай бажаўскай сям'і. Можна прыехаць у любы горад Беларусі, дзе ёсць твае калегі па арганізацыі, і быць упэўненым, што табе дапамогуць. Або шчыра, па-сяброўску, запросяць на каву, распытаюць пра жыццё-быццё. У БАЖы, як у цесным сямейным коле, можна абмеркаваць і свае асабістыя праблемы, і творчыя задумы, і падзяліцца досведам. Мне вельмі даспадобы наша салідарнасць. Паверце, калі цябе судзяць па некалькі разоў на месяц, падтрымка сяброў і калег надта важная. Бо гэта надае ўпэўненасці, дапамагае прыняць правільнае рашэнне, дае адчуванне, што ты не адзін.

У звязку з чым хачу адзначыць добрую працу нашых юрыстаў, асабліва Паўла Левінава, з якім апошнім часам я цесна супрацоўнічаю. Да яго можна звярнуцца ў любы час, і ты заўсёды атрымаеш прафесійную параду, пачуеш словы сяброўскай падтрымкі.

Што яшчэ запомнілася апошнім часам, дык гэта паездкі ва Украіну. Яны былі змястоўнымі і цікавымі, бо вопыт украінскіх журналістаў у адстойванні сваіх правоў можа спатрэбіцца і нам.

Таксама важным для мяне быў семінар па медыяцыі. Атрыманымі ведамі я карыстаюся практычна штодня. Лічу, што варта часцей праводзіць семінары, дзе разглядаецца псіхалогія чалавечых стасункаў, бо камунікацыя — гэта галоўнае ў журналісцкай працы. Вялікі плюс адукацыйных праграм яшчэ і ў тым, што не толькі трэнеры, але і калегі дзеляцца з табой пэўным досведам.

Мяркую, што сёння нашай арганізацыі трэба больш увагі ўдзяляць наладжванню гарызантальных сувязяў паміж журналісцкімі суполкамі. Калі ў межах адной вобласці стасункі існуюць, то суполкі з розных абласцей кантактуюць слаба.

Яшчэ лічу вельмі важным і надалей развіваць юрыдычныя адукацыйныя праграмы. Магчыма, нехта лічыць гэта не надта істотным (прынамсі, я і сам так некалі думаў), але беларускія рэаліі паказваюць, што прававых ведаў многім з нас якраз і бракуе. Асабліва ў сітуацыі, калі побач няма паплечнікаў-сяброў, а цябе прэсінгуюць супрацоўнікі сілавых структур. Таму павышаць узровень прававых ведаў проста неабходна! Як кажуць у народзе, за плячыма не насіць.

Правільным будзе запрашаць на семінары калегаў з іншых краін, каб яны распавядалі пра свае дасягненні. Асабліва з суседніх з Беларуссю, бо мы шмат у чым блізкія ментальна.

Амаль два дзесяцігоддзі я з'яўляюся сябрам Беларускай асацыяцыі журналістаў і ні разу аб гэтым не пашкадаваў. Таму спадзяюся, што і надалей буду ўспрымаць БАЖ як адну вялікую прафесійную сям'ю аднадумцаў.

**Больш як 300 чалавек прайшлі праз адукацыйныя праграмы БАЖ за апошнія тры гады. Двухмесячныя модульныя курсы дапамагаюць авалодаць новымі інструментамі ў розных накірунках — ад фота і відэа да сацыяльных сетак і журналістыкі дадзеных. Мы сустрэліся з сябрам Праўлення БАЖ Юрасём Карманавым, каб пагаварыць пра адукацыйныя праграмы больш канкрэтна.**



# Юрась Карманаў: «Праз адукацыю да імклівых зменаў у прафесіі»

***— Адукацыйныя курсы ў БАЖы існуюць больш як 5 гадоў. Чаму ўзнікла патрэба ў іх арганізацыі?***

— Журналістыка вельмі хутка развіваецца, змяняецца сама сутнасць нашай прафесіі. За апошнія дзесяць гадоў узніклі цэлыя галіны ведаў, якімі абавязаны валодаць сучасны журналіст. Гэта і ўменне працаваць з сацыяльнымі сеткамі, і data-журналістыка з магчымасцю аперараваць вялікімі аб'ёмамі дадзеных, гэта і новыя тэхналогіі працы з відэа, то бок уменне рабіць стрым і г. д.

Праз адукацыю журналіст павінен быць адаптаваны да імклівых зменаў у прафесіі. І толькі новыя веды могуць гарантаваць тое, што журналіст будзе запатрабаваны на сучасным рынку працы.

Са з'яўленнем сацыяльных сетак і хуткім развіццём тэхналогій мяняецца інструментарый журналіста і наша задача палягае ў тым, каб будаваць свае праграмы з разуменнем таго, якую ролю сучасныя сродкі масавай інфармацыі павінны выконваць у грамадстве, інавацыйных тэхналогіях журналісцкай працы.

Адукацыйныя праграмы БАЖ разлічаны на падрыхтоўку кваліфікаванага, універсальнага журналіста, які валодае базавымі прафесійнымі ведамі і ўменнямі, канкурэнтаздольнага і мабільнага.

Першапачаткова курсы задумваліся як пляцоўка для перадачы ведаў ад сталага пакалення моладзі. На шчасце, у беларускай журналістыцы дастаткова легендарных імёнаў, адмыслоўцаў, якія дзеляцца сваімі прафесійнымі «сакрэтамі» з журналістамі-пачаткоўцамі. І БАЖ мусіў стаць такой шматграннай адукацыйнай пляцоўкай.

Яшчэ адзін важны момант. Мы спадзяемся, што нашы слухачы ў працэсе адукацыі засвояць не толькі найноўшыя тэхнічныя веды, але і базавыя фундаментальныя каштоўнасці нашай арганізацыі. Нам хочацца думаць, што мы існуем у агульнай сістэме каардынат, дзе свабода слова і незалежнасць нашай прафесіі з'яўляюцца ўнутранай патрэбай.

***— Якія курсы вы прапануеце і як яны будуюцца?***

— Наша сістэма адукацыі заснавана на двухмесячных модулях. Цягам гэтага часу слухач засвойвае найноўшыя напрацоўкі ў пэўнай сферы журналістыкі. Як правіла, адначасова стартуюць некалькі адукацыйных модуляў, каб чалавек меў магчымасць патрапіць на некалькі курсаў.

Цяпер, да прыкладу, ідуць заняткі адразу па трох накірунках — «Data-журналістыка», «Журналісцкае расследаванне» і «Навіны па-новаму». Лінейка курсаў пабудавана такім чынам, каб тэхнічныя веды ў новых галінах чаргаваліся з традыцыйнымі журналісцкімі дысцыплінамі.

Усе курсы БАЖ практыкаарыентаваныя: з самага пачатку мы гаворым слухачам, што на фінішы мы чакаем ад іх нейкі канкрэтны прадукт — журналісцкае расследаванне, удзел у фотавыставе, відэастрым, аналітычны тэкст.

У год мы праводзім 8–9 курсаў і далучаем да справы лепшых журналістаў. Да прыкладу, Аляксандр Фядута вёў курс для публіцыстаў, Аляксандр Класкоўскі — для аналітыкаў, Паўлюк Быкоўскі — для SMM, а Сяргей Балай і Вадзім Заміроўскі — для фатографаў.

У шэрагі трэнераў мы стараемся ўключыць самых паспяховых практыкуючых журналістаў Беларусі. Гэта рэдактары газет і выбітныя публіцысты, журналісты, якія спецыялізуюцца на расследаваннях, і медыяменеджэры.

Мы таксама імкнемся прыцягнуць замежных трэнераў, якія могуць пашырыць «беларускія гарызонты» і паказаць досвед журналістаў Швецыі і Латвіі, Украіны і Расіі, Польшчы і Нарвегіі.

***— Што можаце сказаць пра будучыя курсы?***

— Сярод новых курсаў, якія сёння распрацоўваюцца, — «Журналістыка траўмы». Гэты курс будзе прысвечаны працы з уразлівымі групамі, псіхалагічнай абароне самога журналіста, асаблівому інструментарыю для тых, хто асвятляе такія складаныя тэмы.

Акрамя таго ў распрацоўцы знаходзіцца курс па сторытэллінгу. Гэта моднае слоўца сёння часта гучыць у медыйных колах. Уласна, сторытэллінг — гэта «смачны» распавед гісторый. Вы бярэце адну гісторыю, якая будзе цікавая чытачам, і падрабязна, «смачна» пра яе расказваеце. Гэта можа быць не толькі тэкст, але і фота, і відэа.

Таксама мы маем намер мадэрнізаваць курс па фота, SMM, навінам.

**„ Адукацыйныя праграмы БАЖ разлічаны на падрыхтоўку кваліфікаванага, універсальнага журналіста, які валодае базавымі прафесійнымі ведамі і ўменнямі, канкурэнтаздольнага і мабільнага.**

Мы пачалі практыкаваць фармат адкрытых лекцый, якія аказаліся вельмі запатрабаванымі ў журналістаў. На лекцыю фатографа Андрэя Лянкевіча зарэгістравалася больш за 60 чалавек — гэта значна больш, чым дазваляе ўтоўпіць наша памяшканне. Тым часам маем намер запрашаць на адкрытыя лекцыі не толькі зорак журналістыкі, але і вядомых блогераў, грамадскіх дзеячоў.

***— Наколькі даступныя адукацыйныя курсы, ці лёгка на іх трапіць сябрам БАЖ?***

— Гэта залежыць ад курса. Як правіла, мы робім шырокую рассылку для сяброў нашай арганізацыі, размяшчаем анонсы на сайце БАЖ і ў сацыяльных сетках. Чалавек абавязкова павінен запоўніць анкету і патлумачыць сваю матывацыю. Далей мы разглядаем анкеты, дзе, зразумела, аддаем перавагу сябрам нашай прафесійнай арганізацыі.

Мы стараемся набраць не больш за 12–14 чалавек на курс. Гэта аптымальная лічба, якая дазваляе трэнеру эфектыўна адсочваць выніковасць практычных заданняў. Але часам колькасць заявак перавышае 60. І тады мы вымушаныя павялічыць набор да 20–25 слухачоў. Так, да прыкладу, было з курсам па фатаграфіі і з «Навінамі па-новаму».

Дарэчы, не трэба думаць, што сярод нашых слухачоў толькі маладыя людзі. Журналістыка

**_Ад траціны да паловы слухачоў складаюць калегі з рэгіянальных СМІ, дзе пытанне доступу да сучасных медыяведаў стаіць асабліва востра. Структура курсаў і іх расклад былі адаптаваныя менавіта пад патрэбы журналістаў з рэгіёнаў._**

як прафесія так хутка развіваецца, што вучыцца ніколі не позна. Мы не надта здзівіліся, калі на курс па сацыяльных мэдыя да нас прыйшоў былы галоўны рэдактар газеты з высакароднай сівізной.

Для нас таксама важна, каб БАЖ заставаўся пляцоўкай для камунікацыі не толькі мінскіх журналістаў, якія працуюць у розных рэдакцыях, але і калегаў з рэгіёнаў, якія часам проста не могуць пазнаёміцца адзін з адным акрамя як на адукацыйных праграмах.

Ад траціны да паловы слухачоў адукацыйных праграм складаюць прадстаўнікі рэгіянальных СМІ Беларусі, дзе пытанне доступу да сучасных медыяведаў стаіць асабліва востра. Структура шмат якіх курсаў і іх расклад былі адаптаваныя менавіта пад патрэбы журналістаў з рэгіёнаў.

Нагадаю, што за апошнія тры гады больш за 300 чалавек прайшлі праз адукацыйныя праграмы, зладжаныя нашай арганізацыяй. Таму можна гаварыць, што БАЖ сапраўды стаў пляцоўкай для падрыхтоўкі запатрабаваных журналістаў.

***— Ці можаце назваць найбольш паспяховых выпускнікоў?***

— Юлія Мацкевіч наведала некалькі адукацыйных модуляў, але ў выніку выбрала для сябе фатаграфію. Сёння выставы Юліі праходзяць не толькі на вядучых пляцоўках Мінска і рэгіёнаў, але і за мяжой. Дарэчы, гэта таленавітая дзяўчына ўжо мае некалькі фотаальбомаў, а пачатак дарогі быў пакладзены ў БАЖ.

Мы ганарымся тым, што наша выпускніца Таццяна Ткачова перамагла на фотаконкурсе ў Літве і яе працы ўпрыгожвалі выставачныя залы ў Вільнюсе разам з іншымі фатаграфіямі пераможцаў. Таццяна, дарэчы, ужо дэбютавала ў якасці трэнера на курсе БАЖ па фота.

Арцём Шрайбман прыйшоў на курсы БАЖ яшчэ студэнтам БДУ, але затым вырас у аднаго з прафесійных і запатрабаваных журналістаў Беларусі. Павел Дабравольскі, Раман Стэфановіч, Вольга Паздзерына і дзясяткі іншых журналістаў з Мінска і рэгіёнаў, якія прайшлі курсы БАЖ, сёння паспяхова працуюць у нашай прафесіі.

***— З якімі цяжкасцямі давялося сутыкнуцца пры арганізацыі адукацыйных праграм?***

— Адна з асноўных праблем — матывацыя ўдзельнікаў. Вось запісваецца чалавек на курс, дасылае анкету, праходзіць адбор, атрымлівае запрашэнне на заняткі. І не ходзіць! Асабліва крыўдна, калі пры высокім конкурсе гэты чалавек заняў месца таго журналіста, каму мы былі вымушаныя адмовіць. Пацiху ствараем «чорны спіс» такіх калегаў.

Яшчэ адна праблема, з якой мы сутыкнуліся — хуткае старэнне ведаў. Сацыяльныя сеткі і тэхналогіі развіваюцца так імкліва, што адпаведныя веды губляюць актуальнасць за год і нам даводзіцца трымаць руку на пульсе.

Вымушаны канстатаваць, што класічныя журналісцкія курсы — інтэрв'ю, рэпартаж, расследаванне і іншыя — карыстаюцца ўсё меншай папулярнасцю. Найбольш запатрабаваныя тэхнічныя курсы, дзе навучаюць новым інструментам працы з SSM, відэа, фота.

***— На якія мэтавыя групы накіраваны адукацыйныя праграмы?***

— Перш за ўсё гэта практыкуючыя журналісты з Мінска і рэгіёнаў, якія маюць патрэбу ў павышэнні кваліфікацыі.

Акрамя таго, мы актыўна працуем са студэнтамі факультэтаў журналістыкі. І даволі часта нам даводзіцца чуць, што веды, атрыманыя на трэнінгах БАЖ, запаўняюць тыя прабелы ў адукацыі, якія засталіся пасля журфака.

Апошнія тры гады мы пачалі працаваць з новымі мэтавымі групамі — супрацоўнікамі прэс-службаў і актывістамі грамадскіх арганізацый. Спецыяльна для іх быў распрацаваны курс па PR-стратэгіі, які бліскуча правёў Аляксандр Люшкевіч. Яшчэ адным трэнерам гэтага курса стаў Андрэй Эзерын, які запусціў кампанію абароны Асмалоўкі.

***— Ці можна казаць пра тое, што пасля адукацыйных курсаў колькасць сяброў БАЖ папаўняецца?***

— Такой статыстыкі не вядзецца, можа, і дарма. Хоць рэкрутынг — гэта таксама своеасаблівы індыкатар паспяховасці адукацыйнага праекта. Нашы праграмы бясплатныя і ў пачатку кожнага курса мы абвяшчаем, што хацелі б бачыць выпускнікоў сярод сяброў нашай арганізацыі. І калі чалавек на пляцоўцы БАЖ павысіў сваю кваліфікацыю і адчуў сябе сваім сярод сваіх, то рана ці позна ён прыйдзе ў нашу арганізацыю.

**Падрыхтаваў Канстанцін СКУРАТОВІЧ**
**Фота Валянціны Зянковай**





# Мае сакрэты — толькі мае!



Алена СЦЯПАНАВА

**Прызнаюся: пра ўласную лічбавую бяспеку я задумалася занадта позна і толькі пасля таго, як мой камп'ютар «раскурочылі» супрацоўнікі КДБ. Неўзабаве я прайшла адпаведную падрыхтоўку, аднак і сёння не магу назваць сябе «гуру» ў гэтай справе. Таму мае развагі — гэта не рэкамендацыі спецыяліста, хутчэй яны выкліканы жаданнем падзяліцца з калегамі ўласным досведам. Паверце, спатрэбіцца.**

## Забыла і… пашкадавала

На першы трэнінг па камп'ютарнай бяспецы я трапіла ў 2007 годзе. Было вельмі цікава, бо шмат пра якія рэчы пачула ўпершыню. Разам з тым было і складана, бо мой непераможны «унутраны гуманітарый» адчайна супраціўляўся, калі даходзіла да матэматычных або тэхнічных акалічнасцяў. Ды што там акалічнасці! На той час я ведала хіба што некалькі праграм, якімі паспяхова карысталася. І ніколі не думала пра нейкае там шыфраванне або ананімны ўваход у інтэрнэт.

Зрэшты, менавіта з тлумачэнняў пра гэты самы «ўваход» пачаў заняткі наш трэнер. Ён звярнуў увагу на тое, што лічбавая бяспека пачынаецца з аналізу: наколькі ваш камп'ютар даступны ў фізічным сэнсе. На якім паверсе знаходзіцца ваш офіс або кватэра, хто мае ключы і можа патрапіць у памяшканне, дзе стаіць камп'ютар і ці кожны можа яго ўключыць — усё гэта, аказваецца, вельмі істотна. Што да мяне, то я з задавальненнем адзначыла, што мой камп'ютар у літаральным сэнсе «персанальны»: карыстаюся ім толькі я і мой пароль доступу дастаткова надзейны.

Два дні мы вывучалі розныя хітрыкі, як дасягнуць таго, каб прыватная інфармацыя гэткай і заставалася. Напрыканцы кожнаму з нас падарылі дыск з рознымі карыснымі праграмамі і дапаможнік на ангельскай мове з малюнкамі. Усе тыя малюнкі я паглядзела і, што называецца, адклала «да лепшых часоў». Аднак замест лепшага неўзабаве прыйшоў даволі



трывожны час, калі 27 сакавіка 2008 года да мяне, як і да некаторых іншых «падазраваных», прыйшлі з перахрусам супрацоўнікі КДБ.

Тут і высветлілася, што трапіць да мяне ў кватэру вельмі проста: варта было назвацца «праверкай пашпартнага рэжыму». І вось ужо чацвёра спецслужбоўцаў і двое панятых — вайскоўцы з бліжэйшай дэсантнай мабільнай брыгады — метадычна абыходзяць усе пакоі… Як высветлілася, перахрус праходзіў у рамках крымінальнай справы, узбуджанай па факце распаўсюду ў інтэрнэце мультфільмаў палітычнага зместу. Таму супрацоўнікаў КДБ цікавілі ўсе носьбіты інфармацыі, у тым ліку старыя відэакасеты з запісамі школьных ранішнікаў дачкі, а таксама камп'ютар. Вось тут і давялося пашкадаваць, што веды таго трэнінгу я так і не ўвасобіла на практыцы. І хаця праваабаронца Павел Левінаў, які падчас перахрусу прыехаў да мяне, каб падстрахаваць, пераканаў «таварышаў» не забіраць сістэмны блок цалкам, а толькі дастаць жорсткі дыск, я зразумела: вось яно, здарылася! Здарылася тое, з чым мяне вучылі змагацца, чаму вучылі супрацьстаяць, а я ўсё адно аказалася непадрыхтаванай.

> ***Жорсткі дыск, які пабываў у КДБ, я выкінула на сметнік. А на новым адразу ж усталявала некалькі праграм, якія прапанавалі на трэнінгу.***

> ***Ніколі не адкладайце арганізацыю камп'ютарнай бяспекі «да лепшых часоў», бо заўтра можа быць позна!***

## Рэальнасць і ўласны досвед

Сёння распаўсюд інфармацыйных тэхналогій, удасканаленне спосабаў захоўвання і апрацоўкі дадзеных дазваляюць ўзняць эфектыўнасць працы з інфармацыяй на вельмі высокі ўзровень. Адначасова ўсё гэта абвастрыла праблемы лічбавай бяспекі, бо мы адказваем за захаванне не толькі ўласных «сакрэтаў», але і канфідэнцыйнай інфармацыі пра іншых людзей — герояў нашых сюжэтаў. Сёння лічбавыя тэхналогіі нясуць пэўную пагрозу работнікам СМІ ва ўсім свеце. Асабліва тады, калі журналісты працуюць у сферы абароны правоў чалавека, прыцягваюць увагу грамадства да вострых сацыяльна-эканамічных праблем, выкрываюць карупцыю. І няма розніцы, дзе ты гэта робіш — у вялікім мегаполісе ці невялічкім раённым цэнтры. Розніца толькі ў метадах, якія прымяняюцца супраць прынцыповых журналістаў з мэтай запалохаць ці ўзяць «пад каўпак».

Арсенал у тутэйшых «кантралёраў-ідыёлагаў» надта шырокі. Ад узлому электроннай пошты і акаўнтаў журналістаў да праслухоўвання тэлефонных размоў. Спіс кіберзлачынстваў у «наглядзе» за свабодай слова ды кантролі за распаўсюдам непадцэнзурнай інфармацыі пастаянна павялічваецца. Небяспека выяўляецца і ў крадзяжы асабістых дадзеных карыстальнікаў лічбавых тэхналогій (асабістыя дадзеныя, дакументы), і ў фізічным сачэнні за чалавекам (геалакацыя, IP-адрасы і г. д.). Таму жаданне пазбегнуць такіх тэхнічных рызык, як і крадзяжу пароляў або «засветкі» асабістых дадзеных, ёсць надзённай патрэбай. Хаця яшчэ 10 гадоў таму некаторыя з нас называлі такую перасцярогу «сімптомам маніі праследу»…

Калі вярнуцца да перахрусу ў маёй кватэры, да маёй непадрыхтаванасці, калі змесціва майго персанальнага камп'ютара так лёгка трапіла ў чужыя рукі, мушу прызнацца: той выпадак назаўжды пераканаў мяне ў неабходнасці карыстацца магчымасцямі лічбавай бяспекі. Праз некалькі месяцаў канфіскаваны жорсткі дыск, на якім нічога «крамольнага» не знайшлі, мне вярнулі. Але я дагэтуль не ведаю, што яшчэ з майго прыватнага сховішча інфармацыі магло зацікавіць спецслужбоўцаў і чым гэта можа адгукнуцца ў перспектыве. Не ўпэўненая я і ў тым, што на маім жорсткім дыску не з'явіліся якая-небудзь праграмка, якая можа лёгка забяспечыць «кантралёрам» насанкцыянаваны доступ да маіх файлаў у будучым. Таму жорсткі

дыск, які пабываў у КДБ, я выкінула на сметнік. А на новым адразу ж усталявала некалькі праграм, якія прапанавалі на трэнінгу, да якога, на жаль, я паставілася легкадумна.

На чарговы трэнінг па лічбавай бяспецы я ўжо збіралася мэтанакіравана, бо адчула ў тым вострую неабходнасць. Напярэдадні сфармулявала некалькі пытанняў: якую канкрэтна інфармацыю я хачу абараніць і што са змесціва майго камп'ютара можа ўяўляць інтарэс для патэнцыйнага праціўніка? якія існуюць праграмныя магчымасці для абароны камп'ютара і мабільнага тэлефона ад несанкцыянаванага доступу? якім чынам я сама магу абараніць сябе і свае дадзеныя у інтэрнэце і сацыяльных сетках? Прааналізавала пытанні і зразумела: адмыслоўцы ў галіне лічбавай бяспекі могуць даць мне канкрэтныя веды. А ў астатнім…

*Забеспячэнне асабістай лічбавай бяспекі ў значнай ступені залежыць ад вашай уласнай адказнасці.*

## Пра мае таямніцы

Што да лічбавых тэхналогій, то трэнінгі дапамаглі мне прыкметна папоўніць свой досвед. Аднак я дагэтуль не магу ні зразумець, ні патлумачыць, якім чынам мой камп'ютар аднойчы аказаўся звязаным з сайтам па продажы гідракасцюмаў! Сайт быў фэйкавы, уяўляў сабой усяго адну старонку. Наконт чаго адзін знаёмы камп'ютаршчык выказаў меркаванне, што стварылі яго невыпадкова, а з мэтай атрымаць доступ да маіх дадзеных. Якім чынам, нават не пытайцеся: гэта той выпадак, калі я магу спасылацца толькі на думку спецыяліста. Аднак калі я заўважыла, што мая «тэхніка» пачала працаваць надта марудна, то адразу звярнулася да чалавека, якому давяраю. Добра, калі ў вас ёсць такі сябра-камп'ютаршчык, які можа зрабіць адпаведную прафілактыку і рамонт вашага абсталявання. Я цвёрда вырашыла больш не аддаваць свой камп'ютар у чужыя рукі.

Вызначэнне межаў маёй асабістай прасторы ў інтэрнэце залежыць толькі ад мяне. Гэта я пра сацыяльныя сеткі, дзе кожны мусіць вырашаць сам, якую інфармацыю ён можна зрабіць агульнадаступнай, а якую — не. З улікам таго што пэўныя звесткі могуць стаць «кампраматам» у тым ці іншым кантэксце, сапсаваць рэпутацыю — як вашу асабіста, так і вашых сяброў ці знаёмых.

З гэтым я таксама сутыкнулася, калі гады тры таму невядомыя «добразычліўцы» стварылі фэйкавую старонку ў «Фэйсбуку» і цалкам скапіравалі выгляд маёй сапраўднай старонкі. І ад майго імя пісалі каментары, у тым ліку ў суполцы «Віцебск. Нашы ў горадзе», якую стварылі віцебскія БАЖаўцы. Тыя каментары былі тупымі і брыдкімі. І цяжка знайсці словы, каб перадаць пачуццё, калі нехта карыстаецца тваёй асабістай інфармацыяй. Летась аматары «фэйкавай творчасці» пайшлі яшчэ далей: не толькі зрабілі у «Фэйсбуку» яшчэ адну быццам маю старонку, але й размясцілі на ёй заведама непраўдзівую інфармацыю. А потым спасылаліся на яе ў іншых сацыяльных сетках — як на факт, нібыта выкладзены вядомай у Віцебску журналісткай. Давялося паскардзіцца адміністрацыі сацсетак, пасля чаго фэйкавы акаўнт ліквідавалі. Таму хачу яшчэ раз нагадаць сваім калегам: будзьце пільнымі! Бо спробы скампраметаваць і прынізіць аўтарытэт журналіста праз размяшчэнне неверагоднай лухты ад яго імя сустракаюцца даволі часта. Цалкам застрахавацца ад гэтага, зразумела, немагчыма. Аднак магчыма і нават неабходна трымаць свае старонкі ў сацыяльных сетках у такім выглядзе, каб іхны змест было цяжка выкарыстаць для фальсіфікацый.

***Сёння лічбавыя тэхналогіі нясуць пэўную пагрозу работнікам СМІ ва ўсім свеце. Асабліва тады, калі журналісты працуюць у сферы абароны правоў чалавека, прыцягваюць увагу грамадства да вострых сацыяльна-эканамічных праблем, выкрываюць карупцыю.***

Распавядаць публічна, якімі праграмамі я карыстаюся, каб забяспечыць сваю лічбавую бяспеку, будзе няправільна. Таму нагадаю толькі пра стандартны набор карысных звычак, якія дапамагаюць пазбегнуць кантролю ў інтэрнэце, перакрываюць непажаданы доступ да электроннай інфармацыі і ўмяшанне ў функцыянаванне электронных прыладаў. Найперш, гэта выкарыстанне пароляў і перыядычная іх змена — як на саміх прыладах, так і ў электроннай пошце ды ў сацыяльных сетках. Якія паролі аптымальныя, якім чынам іх прыдумваць або генерыраваць — пра гэта напісана шмат спецыяльных артыкулаў, у тым ліку і ў гэтым нумары «Абажура». Яшчэ адна карысная

звычка, якую я цвёрда засвоіла — выходзіць з усіх акаўнтаў, перш чым закрыць старонку ў сацыяльных сетках ці ў электроннай пошце. Для кагосьці, магчыма, гэта і даўняя норма, але шмат хто з маіх сяброў пакідае старонкі адкрытымі. Мауляў, лянота раз-пораз уводзіць пароль ды яшчэ ўзгадваць яго… Дарэмна. Гэта той мінімум бяспекі, які ты можаш забяспечыць сабе сам.

***Будзьце пільнымі! Бо спробы скампраметаваць і прынізіць аўтарытэт журналіста праз размяшчэнне неверагоднай лухты ад яго імя сустракаюцца даволі часта.***

Асабліва актуальнымі такія правілы бяспекі былі тады, калі многія карысталіся паслугамі пунктаў калектыўнага доступу — грамадскімі камп'ютарамі на прадпрыемствах сувязі. Цяпер жа праблема трапіць у інтэрнэт спрасцілася: ёсць смартфоны і магчымасць выхаду ў сеціва праз мабільнага аператара. Аднак і сёння правіла «спачатку выйсці, а потым зачыніць» для мяне застаецца прынцыповым. Як і праца за чужым камп'ютарам толькі на ўласнай флэшцы — бо «ўсё сваё нашу з сабой». Увогуле ж самую важную інфармацыю лепш захоўваць на некалькіх носьбітах — на выпадак непрадбачанай страты.

Шыфроўка дадзеных, ананімнасць у інтэрнэце — усяму гэтаму можна навучыцца падчас адукацыйных праграм, якія ладзіць БАЖ. А яшчэ вельмі важна, каб неабходнасць захоўваць лічбавую бяспеку разумелі і тыя, з кім вы кантактуеце ў інтэрнэце. Інакш любое, нават самае мудрагелістае шыфраванне, перасцярогі з паролямі ды ўсе іншыя захады будуць марнымі.

Новыя тэхналогіі імкліва рухаюцца наперад. Працэс гэты двухбаковы: з аднаго боку — развіваюцца магчымасці сачэння за карыстальнікамі ў інтэрнэце, з другога — з'яўляюцца ўсё новыя спосабы гэтаму супрацьстаяць. Зразумела, што актуалізацыя ведаў у гэтым напрамку вельмі важная і аднаго адмысловага трэнінгу раз на пяць гадоў відавочна мала.

***Менавіта таму пры самай першай магчымасці атрымлівайце любую адукацыю ў сферы лічбавай бяспекі. Гэта я раю ўсім, без выключэння.***

МЕДЫЯСЯМ'Я



**Святлана ГАРДА, рэдактар сайта «Медиа-Полесье»**

# Прывітанне з Палесся!

Прафесійна я сталела менавіта разам з БАЖам. Каб не гэта грамадскае аб'яднанне, не ведаю, ці засталася б я ў незалежнай прэсе, ці хапіла б духу і настойлівасці заснаваць свой партал, вакол якога сёння згуртаваліся маладыя аўтары. Цяпер наш партал інфармацыйна аб'ядноўвае журналістаў з жыхарамі Прыпяцкага Палесся.

Дапамаглі веды, якіх журфак не дае, а ў БАЖы я іх атрымала. Дапамаглі калегі, з якімі можна ў любы час параіцца, падзяліцца набалелым.

Заўсёды прытрымліваюся думкі: пасіўнасць — гэта тое, што псуе жыццё… Трэба быць актыўным, імкнуцца да ўдасканальвання ведаў, не застойвацца на месцы. І БАЖ дае сваім сябрам неверагодную колькасць такіх магчымасцяў.

Шмат гадоў я ўзначальвала Лунінецкую філію, але і зараз, калі сышла з гэтай грамадскай пасады, засталося адчуванне, што не толькі арганізацыя патрэбна мне, але і я ёй патрэбна.

У апошнія гады ноу-хау Лунінецкай філіі — гэта прэс-туры па рэках Палесся на байдарках, клубнічны прэс-тур «БАЖ-ДЖЭМ», рэгіянальныя круглыя сталы журналістаў і літаратараў.

Прыкметна, што рэгіянальныя філіі сталі часцей запрашаць адна другую да ўдзелу ў розных эксклюзіўных мерапрыемствах, заўважна палепшыўся ўзровень іх правядзення.

Як рэдактару мне не аднойчы даводзілася звяртацца па юрыдычную дапамогу ў БАЖ, дзе я заўсёды знаходзіла шчыры водгук. Можна сказаць, што наша «Медиа-Полесье» ратавалі двойчы…

Прафесійныя кансультацыі, трэнінгі даюць упэўненасць і адчуванне юрыдычнай падкаванасці. І гэта актуальна, бо сапраўды патрэбна.

Сёння вялікі дэфіцыт у рэгіёнах — кваліфікаваныя праграмісты. Думаю, наспеў час стварыць цэнтр праграміравання пры БАЖ. Каб адмыслоўцы праводзілі кансультацыі, рабілі аналіз сайтаў і былі гатовыя (як гэта робяць бажаўскія юрысты) прыйсці ў крытычны момант на дапамогу. А такія моманты, на жаль, здараюцца, у тым ліку DDOS-атакі.

Яшчэ скажу пра неабходнасць больш хуткай «загартоўкі» маладых журналістаў з глыбінкі. У Мінску трэнінгаў хапае, але для людзей з аддаленых рэгіёнаў няма сэнсу ехаць на сустрэчу, якая праходзіць цягам 2–3 гадзін. Добра было б зладзіць, напрыклад, летнік дні на тры з добрымі трэнерамі, практычнымі заняткамі, конкурсам творчых работ. Таму што наспела неабходнасць вучыцца пісаць па-новаму, прафесійна рабіць візуальнае напаўненне сайта і шмат што яшчэ з сучасных «фішак».

Жадаю ўсім нам здзяйснення гэтых планаў!

**Недасканалае заканадаўства ў сферы СМІ і праслед фрылансераў, блакаванне незалежных сайтаў, моцны ўплыў расійскай прапаганды на беларускае грамадства, нястача рэсурсаў… Бясконцы лабірынт праблем, безліч выклікаў, з якімі беларуская незалежная журналістыка сутыкаецца штодня. А мы трымаемся і ўмацоўваем свае пазіцыі, хаця не так хутка, як кожнаму з нас хацелася б. Пра гэта размова з распрацоўшчыкам медыястратэгіі беларускіх незалежных СМІ на бліжэйшыя гады Вітаўтам Руднікам.**



**Вітаўт Руднік** — гродзенскі журналіст, грамадзкі дзеяч, адзін з найбольш вядомых беларускіх трэнэраў у сферы нефармальнай адукацыі. Нарадзіўся 26 жніўня 1969 г. у вёсцы Малі Астравецкага раёна (Гродзенская вобл.). Скончыў гістарычны факультэт Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта. Адзін з заснавальнікаў і шматгадовы старшыня праўлення ГА «Цэнтр інфармацыйнай падтрымкі грамадскіх ініцыятываў "Трэці Сектар"». Прымаў непасрэдны ўдзел у распрацоўцы Стратэгіі незалежнага медыясектара Рэспублікі Беларусь 2018–2023.

# Вітаўт Руднік:

# *Сучасны журналіст мусіць быць універсальным «салдатам»*

— *Спадар Вітаўт, Вы былі адным з тых, хто распрацоўваў Стратэгію незалежнага медыясектара ў Беларусі на бліжэйшыя 5 гадоў. Перад якімі выклікамі сёння стаіць беларуская незалежная журналістыка?*

— Нашы даследчыкі вызначылі надта вялікую колькасць выклікаў. Калі сканцэнтравацца на галоўных, то гаворка перш за ўсё ідзе пра палітычныя і прававыя абмежаванні ў працы беларускіх журналістаў, выдаўцоў і рэдактараў. Сёння вельмі хутка змяняецца медыярынак і ўсё часцей правілы гульні дыктуюць сацыяльныя сеткі, якія моцна ўплываюць на працу медыяў. Мы адзначаем таксама неабходнасць павышэння патэнцыялу журналістаў і рэдактараў, навучанне сучасным тэхналогіям, тым ведам і ўменням, якія дапамогуць дзейнічаць і развівацца,

